# Голас Радзімы

№ 38 (1972)
18 верасня 1986 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Каля трыццаці гадоў назад з'явіўся на карце Беларусі Наваполацк—горад нафтавікоў і хімікаў, пабудаваны маладымі людзьмі, якія прыехалі сюды жыць і працаваць з розных рэгіёнаў Савецкага Саюза. Цяпер ужо іх дзеці, 20—25-гадовыя юнакі і дзяўчаты, вызначаюць сённяшні дзень горада. У прамысловасці і на транспарце, на будоўлях і ў сферы сервісу працуюць пераважна людзі маладыя.

Гэты здымак зроблены ў наваполацкім вытворчым аб'яднанні «Палімір» —адным з самых буйных прадпрыемстваў горада. Галіна РАЗУЕВА, Вячаслаў ТАРАСАЎ, Юрый ГРЫШАНАЎ, Алена КІСЯЛЕВА, Леанід КАЖЭКА і Людміла ШАДЗЬКО працуюць лабарантамі і апаратчыкамі ў цэху па вытворчасці поліэтылену.

Фота В. ДРАЧОВА.

# АДКАЗЫ М. С. ГАРБАЧОВА

## на пытанні галоўнага рэдактара газеты «Рудэ права» Здэнека Горжэні

**Пытанне:** Ваша Заява аб прадоўжанні аднабаковага мараторыя на ядзерныя выбухі да 1 студзеня 1987 года выклікала вельмі шырокі рэзананс і, як нам у Чэхаславакіі ўяўляецца, зрабіла сур'ёзны ўплыў на расстаноўку грамадска-палітычных сіл у свеце ў пытаннях разбраення.

Як Вы ацэньваеце прычыны гэтага і магчымыя вынікі новай буйной міралюбівай акцыі Савецкага Саюза?

**Адказ:** На першую частку пытання адказ здаецца відавочным. Аб савецкім мараторыі даведалася сёння значна больш людзей, чым некаторы час назад. Палітычным лідэрам і сродкам масавай інфармацыі Захаду становіцца ўсё цяжэй замоўчваць факт аднабаковага паўтарагадовага мараторыя, ды і амерыканскія аргументы на карысць выпрабаванняў яўна пацьмянелі, страцілі сваё ўздзеянне на грамадскасць. Гэта па-першае. А па-другое, у свеце ідзе ўсё больш глыбокае ўсведамленне рэальнасці ядзернай пагрозы. Адвесці яе можна, толькі ліквідаваўшы, як мы і прапануем, ядзерную зброю, а ў якасці першага кроку — спыніць ядзерныя выпрабаванні. Як кажуць, гэта ясна як божы дзень. Гэтага не могуць употай не разумець нават людзі, апантаныя гонкай узбраенняў.

У падтрымку савецкага мараторыя з заклікамі да Амерыкі пераняць прыклад СССР выступілі нашы сацыялістычныя сябры, камуністычныя партыі, канферэнцыя руху недалучэння ў Харарэ, які прадстаўляе дзесяткі дзяржаў, лідэры «дэлійскай шасцёркі», шматлікія грамадскія арганізацыі і прафсаюзы, аўтарытэтныя палітычныя партыі, у тым ліку заходнегерманскія сацыял-дэмакраты і брытанскія лейбарысты, вядомыя дзеячы навукі і культуры ўсюды ў свеце. У цэлым можна сказаць, што лягчэй пералічыць тых, хто не падтрымаў нашу акцыю, чым тых, хто яе адобрыў.

Гэтыя выступленні — а мы іх высока [illegible]нім — пацвярджаюць, што новае палітычнае мысленне прабівае сабе дарогу праз застарэлыя забабоны, аджыўшыя ўяўленні, праз завалы хлусні аб «савецкай пагрозе».

Наколькі можна меркаваць па амерыканскіх жа даных, падтрымлівае ідэю спынення ядзерных выпрабаванняў і грамадская думка ЗША, значная частка кангрэса.

Словам, ніколі яшчэ не было такім агульнапрызнаным, што ядзерную вайну нельга весці і ў ёй не можа быць пераможцаў, якія б хітрыя сцэнарыі ваенных дзеянняў ні распрацоўваліся.

Да гэтага дабаўляецца і іншае: палітыка Злучаных Штатаў пачынае ўсё больш палохаць людзей; абурлівыя праяўленні мілітарысцкай лініі раскрылі вочы многім, і трывогу наконт таго, што катастрофа сапраўды можа адбыцца, ужо ніхто не можа скрыць.

Рэзананс, які выклікала спыненне ядзерных выбухаў Савецкім Саюзам, звязан, вядома, і з тым, што гэта — не дэкларацыя, а дзеянне. Ужо чацвёрты раз мы пайшлі на прадоўжанне мараторыя. Год без выбухаў — гэта ўжо палітычная і ваенная рэальнасць. Тэндэнцыя розуму і разважнага сэнсу цяпер практычна прысутнічае ў сусветнай палітыцы і можа быць развіта, умацавана пагадненнем аб узаемнай забароне ядзерных выпрабаванняў. А таксама іншымі смелымі, моцнымі крокамі, вырашэннем наспеўшых і пераспеўшых пытанняў.

Хіба, напрыклад, не важна для лёсу Еўропы, ды і ўсяго свету ўвянчаць дабротнай дагаворанасцю работу Стакгольмскай канферэнцыі? Безумоўна, так. І са свайго боку Савецкі Саюз разам з Чэхаславакіяй, іншымі сацыялістычнымі краінамі прымае практычныя меры, каб так яно і адбылося. Ёсць магчымасць — мне ўжо даводзілася аб гэтым гаварыць — прыйсці да згоды аб забароне хімічнай зброі і ліквідацыі яе прамысловай базы.

Па стратэгічных узбраеннях, ракетна-ядзернай зброі сярэдняй дальнасці, звычайных узбраеннях магчымы рацыянальныя кампрамісы, калі на справе імкнуцца да паніжэння ўзроўню ваеннага процістаяння, да раўназначнай бяспекі. Магчыма дагаворанасць і па ўмацаванню рэжыму такога фундаментальнага дакумента, як дагавор па ПРА.

Але трэба глядзець на рэчы, як яны ёсць. Магчымасцей становіцца быццам бы ўсё больш, а павароту да лепшага няма.

У гэтым сэнсе паказальная і рэакцыя на нашу Заяву ў кіруючых колах Злучаных Штатаў. Яна з самага пачатку выявіла, што, прынамсі, у акружэнні прэзідэнта, прадстаўнікі якога на гэты раз нават не спрабавалі ўтойваць свайго раздражнення, сур'ёзна аб ліквідацыі ядзернай пагрозы пакуль не думаюць. Іменна таму прадоўжанне мараторыя выклікала там та[illegible] нездавальненне. Відаць, [illegible] ад наяўнасцю новых савецкіх прапаноў у гэтых колах адчулі сябе няёмка. Ужо вельмі, напэўна, цяжка стала апраўдваць сваю пазіцыю ў вачах як сусветнай, так і амерыканскай грамадскасці.

І зноў паехалі г[illegible]зрой каляіне, імкнучыся прынізіць значэнне нашай акцыі, навешваючы ёй ярлык «прапаганды». Але паўстае пытанне: калі гэта прапаганда, то ў чым мы хочам ёю пераканаць, што хочам ёю сказаць? У тым, што можна абысціся без ядзерных выбухаў? Што свой заклік вызваліць чалавецтва ад ядзернай зброі мы падмацоўваем спыненнем яе выпрабаванняў? Што дрэннага ў такой «прапагандзе»?

Наогул жа, наконт абвінавачанняў нас у «прапагандзе» я ўжо не раз гаварыў: вельмі гэта несур'ёзна, калі нашы адказныя палітычныя дзеянні хочуць перавесці ў такую плоскасць. Не той гэта падыход у такі напружаны, можна сказаць, пераломны момант сусветнага развіцця.

Мы не ў прапагандысцкай вайне хочам выйграць. Мы не хочам нават удзельнічаць у такой «схватцы», лічачы яе недастойнай важнасці прадмета. Наша мэта — зрабіць рэальны крок да рэальнага разбраення. І шчыра запрашаем да гэтага амерыканскую адміністрацыю. Мы хочам зрушыць з месца перагаворы, каб адцясніць ядзерную пагрозу дзеля бяспекі ўсіх і сапраўднай разрадкі.

Вельмі ўжо многа сапраўды прапагандысцкіх спекуляцый вакол нашага мараторыя і ў акружэнні Белага дома, і ў палітычных колах, і ў прэсе. Іншы раз складваецца ўражанне, што ў ЗША наогул схільны замяніць знешнюю палітыку прапагандай. Які ўжо тут дзелавы, абяцаючы поспех дыялог! Мы адхіляем такі стыль, лічым, што размова ідзе аб вельмі сур'ёзных рэчах, каб гуляць вакол іх у слоўныя гульні. І хочам разлічваць на тое, што нас, нарэшце, зразумеюць у Амерыцы і адклікнуцца на наш заклік адэкватна, дастойным чынам.

А ўжо калі гаварыць аб «сур'ёзнасці», да якой нас заклікалі ў сувязі з чарговым прадоўжаннем намі мараторыя, то хацеў бы сказаць, што адносіны да спынення ядзерных выпрабаванняў, да хутчэйшай выпрацоўкі дагавора аб іх поўнай забароне сталі сёння самым пераканаўчым паказчыкам таго, наколькі сапраўды сур'ёзна адносіцца кожная з буйнейшых ядзерных дзяржаў да разбраення, міжнароднай бяспекі, ды і наогул да справы міру.

У Заяве 18 жніўня я ўжо гаварыў, што адносіны да ядзерных выбухаў — гэта экзамен на гістарычную сталасць. Я глыбока ў гэтым перакананы.

Больш таго, гэта — пробны камень, на якім правяраюцца сапраўдная мэтанакіраванасць, галоўны змест знешняй палітыкі ядзернай дзяржавы.

Сапраўды.

Калі хочаш ваеннай перавагі, — табе мараторый не патрэбен.

Калі хочаш працягваць гонку ўзбраенняў, асабліва ж — перавесці яе ў новыя сферы, у космас, — табе мараторый не патрэбен.

Калі ты хочаш мець новыя, больш дасканалыя віды зброі, — мараторый тут зусім не патрэбен.

Калі ў вырашэнні міжнародных праблем ты разлічваеш на сілу і маеш намер звяртацца да дыктату, да шантажу, — мараторый табе таксама перашкода.

Калі ты баішся сумленна спаборнічаць з іншай сацыяльнай сістэмай у галіне эканомікі, дэмакратыі, культуры, духоўнага багацця чалавечага жыцця, — мараторый табе яўна не падыходзіць.

Калі цябе не хвалюе, што будзе з прыродай, з асяроддзем пражывання людзей, — ты будзеш і далей праводзіць ядзерныя выбухі.

Калі сквапныя апетыты заправілаў ваеннага бізнесу і ўсіх, хто з ім звязан, важнейшыя за думкі і жыццёвыя інтарэсы соцень мільёнаў людзей на ўсім свеце, — ты працягваеш ядзерныя выпрабаванні.

Інакш кажучы, адносіны да мараторыя ўскрываюць сапраўдную сутнасць і накіраванасць палітыкі. Ад гэтага нікуды не дзецца.

Калі ж ёсць сапраўднае жаданне пачаць скарачэнне і потым паконч[ыць] зусім з ядзернай зброяй, як аб гэтым афіцыяльна і ўрачыста не раз заяўлялася і самім прэзідэнтам, і некаторымі членамі яго адміністрацыі, калі ёсць сапраўднае разуменне таго, што ядзерная вайна недапушчальная, калі праўда, што Злучаныя Штаты не імкнуцца да ваеннай перавагі, тады няма прынцыповых перашкод да дасягнення раўнапраўнага і строга правяраемага пагаднення.

Вось чаму мы лічым, што «мяч не на палавіне поля рускіх», як сцвярджаюць лёгкія на слова герольды Белага дома, а на амерыканскай палавіне.

Аднак, пытанне стаіць яшчэ шырэй і больш значна, чым адносіны да мараторыя, хоць, паўтараю, спробы ўхіліцца ад гэтай прынцыповай важнасці праблемы разбраення, раствараць яе ў іншых пытаннях, абясцэньваць, перавесці ў іншую плоскасць, дастаткова характэрныя.

Бо калі выстраіць усю пасляжэнеўскую палітыку адміністрацыі, то карціна складваецца трывожная. Тут і фарсіраванне САІ, і выпрабаванні проціспадарожнікавага комплексу АСАТ, іншыя акцыі, якія падрываюць дагавор па ПРА, тут і выпрабаванні новай міжкантынентальнай балістычнай ракеты, новых самалётаў і падводных лодак, заявы аб выхадзе з Дагавора АСУ-2, прычым якраз да таго моманту, калі мяркуюць праводзіць з намі другую сустрэчу на вышэйшым узроўні, і фантастычныя запросы на чарговы ваенны бюджэт, і асігнаванні на бінарную зброю, і сілавыя разбойніцкія «неаглабалісцкія» дзеянні супраць Лівіі, Нікарагуа, на поўдні Афрыкі, у іншых месцах, тут і стварэнне новых ваенна-марскіх ударных фарміраванняў, і небывалыя з 50-х гадоў па колькасці ўведзеных у дзеянне сродкаў ваенныя манеўры паблізу Савецкага Саюза — ад Паўночнага мора і Балтыкі да Далёкага Усходу. Мае рацыю маршал Ахрамееў, які сказаў на канферэнцыі ў Стакгольме: «Уявіце сабе, што было б, калі б падобныя манеўры разгарнулі краіны Варшаўскага Дагавора!»

Як мы павінны ўспрымаць гэтыя абуральныя ваенныя дэманстрацыі? Няўжо як праяўленне міралюбнасці і імкнення да ўзаемаразумення або, можа, як падрыхтоўку атмасферы для сустрэчы на вышэйшым узроўні?

Між іншым, у Белым доме і каля яго так прама і гавораць: усё гэта неабходна, каб прымусіць рускіх да новых уступак. Такі узровень адказнасці тых, для каго гонка ўзбраенняў — залатое дно, і дарэчы, узровень разумення, з кім яны маюць справу.

З падобнай ваенна-палітычнай [illegible]ктыкі напрошваецца вель[illegible]р'ёзны вывад: хочуць легалізаваць гонку ўзбраенняў, па сутнасці ж справы — гэта матэрыяльная і псіхалагічная падрыхтоўка сусветнай вайны. У грамадскасці законна спее пытанне: што? Значыць Амерыка з[illegible]цца ваяваць? Калі так, то т[illegible] зразумелая логіка дзеянняў адміністрацыі.

Мімволі прыходзяць на памяць асацыяцыі з 60-мі гадамі, калі нахабна заявіла аб сваіх прэтэнзіях на Белы дом крайне рэакцыйная групоўка. Але Амерыка тады сама асадзіла гэту групоўку. Да ўлады прыйшлі іншыя людзі, адкрылася магчымасць затрымаць разрастанне «халоднай вайны», а потым, у 70-х гадах — спыніць яе зусім. Былі заключаны дагаворы, некаторыя з іх працуюць і сёння.

А што мы бачым цяпер? Зноў разгортваюцца ваенныя праграмы, але такія, якія ствараюць значна большую, чым тады, пагрозу развязвання сусветнай вайны, бо гэта адбываецца на новым навукова-тэхнічным вітку гонкі ўзбраенняў і пры наяўнасці значна большых арсеналаў зброі, здольнай за некалькі дзён знішчыць цывілізацыю.

Таму і задача нашых дзвюх краін, усіх міралюбівых сіл — не дапусціць, каб гэта гонка прыняла незваротны характар.

І значна больш сур'ёзная, чым раней, я б сказаў — асобая адказнасць за тое, куды павернецца ход падзей у свеце, кладзецца на амерыканскі народ. Яму ёсць над чым задумацца.

Хачу верыць у розум, рэалізм, ды і элементарнае пачуццё самазахавання амерыканскага народа. Нашым двум народам трэба супрацоўнічаць, а не варагаваць, сябраваць, а не ваяваць. Я зноў заклікаю да гэтага.

Ведаю, таварыш Горжэні, што і ў вас у Чэхаславакіі, і ў нас, і ў іншых краінах задаюць нярэдка і такое пытанне: ці не стаіць за курсам на неўтаймоўную гонку ўзбраенняў імкненне эканамічна падарваць СССР, сацыялістычную садружнасць? Як можна, у прыватнасці, ацаніць і афіцыяльныя заявы, і домыслы ў сродках масавай інфармацыі нават таго, што эканамічныя праблемы і цяжкасці, якія ёсць у СССР, прымусяць яго, калі яшчэ паднацісн[уць], пайсці на аднабаковыя ўступкі?

Эканамічныя праблемы і цяжкасці ў нас ёсць. Аб іх мы сказалі і гаворым адкрыта. Няма праблем і цяжкасцей у іншых краінах, асабліва тых, якія нядаўна сталі на шлях самастойнага развіцця. А хіба няма іх на Захадзе, у саміх Злучаных Штатах? Больш таго, — яны там грозна нарастаюць, накопліваюцца найвастрэйшыя праблемы, дзяржаўны доўг дасягнуў астранамічнай лічбы, і так велізарнае беспрацоўе зноў пачынае набываць пагражаючыя размеры, паглыбляюцца сацыяльныя супярэчнасці.

А што датычыць нашых эканамічных клопатаў, то мы б хацелі справіцца з імі хутчэй і лепш, таму віталі б любую магчымасць пераключыць сродкі і сілы з абароны на грамадзянскія галіны, на павышэнне дабрабыту людзей. Але інтарэсы бяспекі мы пры гэтым ніколі не ахвяруем і на ўступкі за яе кошт не пойдзем, у тым ліку і на перагаворах. Ды нам і не дазволіў бы гэтага савецкі народ.

Спробы гонкай узбраенняў эканамічна падарваць СССР, сусветны сацыялізм мы добра бачым. І зробім усё, каб не дазволіць збыцца гэтым злосным планам. Дзейнічаць будзем адразу на некалькіх напрамках: на дыпламатычным, ваенным, палітычным і — так-так! — прапагандысцкім, але перш за ўсё — на эканамічным. Павышаць эфектыўнасць гаспадаркі, нарошчваць паскарэнне, удасканальваць кіраванне.

У гэтым плане якасная праца савецкіх людзей, працоўных краін сацыялістычнай садружнасці — адначасова і ўклад у справу міру. Даём мы слабіну — напор ворагаў сацыялізму ўзмацняецца. Становімся мацнейшымі эканамічна, у сацыяльным і палітычным плане — расце і зацікаўленасць капіталістычнага свету ў нармальных адносінах з намі, рассейваюцца ілюзіі, быццам гісторыю можна павярнуць назад.

**Пытанне:** Сярод водгукаў на Вашу Заяву ёсць і такія: маўляў, ні аднабаковы мараторый, ні нават двухбаковае пагадненне з ЗША па гэтаму пытанню практычна нічога не дадуць для вырашэння праблемы ядзернага разбраення. Ці так гэта?

**Адказ:** Ніяк не магу згадзіцца з гэтым.

Мараторый сапраўды спрабуюць процінаставіць скарачэнню ўзбраенняў, даказаць, нават, быццам ён перашкаджае пачаць працэс разбраення. У некаторых колах і ў прэсе гуляе і такая думка: маўляў, ядзерная зброя «зло», але «зло непазбежнае», паколькі яно служыць стрымліванню, а калі так — яно мае патрэбу ў праверцы надзейнасці, гэта значыць у праводзенні выбухаў.

Усё гэта — абсурд, калі не спроба збіць людзей з толку.

Мы яшчэ ў студзені прапанавалі сумесна пачаць «выкараненне самога зла» — ліквідаваць усю ядзерную зброю да канца стагоддзя. Вядома, гэта задача няпростая. Але мы і прапануем яе вырашаць паэтапна, з улікам усіх складанасцей, адводзім на гэта 15 гадоў, прадугледжваем паралельныя намаганні ў сферы ліквідацыі хімічнай зброі і радыкальных скарачэнняў звычайных узбраенняў, маем на ўвазе адначасова з разбраеннем рухацца наперад у палітычнай, эканамічнай і гуманітарнай сферах міжнародных адносін.

[Заканчэнне на 4-й стар.]

# АДКАЗЫ М. С. ГАРБАЧОВА

## на пытанні галоўнага рэдактара газеты «Рудэ права» Здэнека Горжэні

(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.).

Спробы процiпаставiць пытанне аб спыненні ядзерных выбухаў пытанню аб скарачэнні ядзернай зброі нядобрасумленныя і па яшчэ адной прычыне. Такія спробы сеюць ілюзіі: быццам ужо дзве дзяржавы «амаль» дагаварыліся аб радыкальным скарачэнні ядзернай зброі, а тут вось СССР перашкодзіў сваім мараторыем. Але справа абстаіць зусім не так. З часу жэнеўскай сустрэчы мы ні на дзюйм не наблізіліся — нягледзячы на ўсе старанні СССР — да пагаднення аб скарачэнні ўзбраенняў.

А вось узаемнае спыненне ядзерных выбухаў якраз сур'ёзна садзейнічала б згодзе наконт гэтага. Са спыненнем жа выпрабаванняў па сутнасці справы спыняецца гонка ў самай небяспечнай галіне — у галіне стварэння новых відаў ядзернай зброі, у яе ўдасканаленні. Застаецца толькі спраўца з колькаснай гонкай узбраенняў, што прасцей.

Наша пазіцыя, такім чынам, заключаецца ў тым, што спыненне ядзерных выбухаў арганічна звязана са скарачэннем ядзернай зброі, вельмі сур'ёзна дапамагло б вырашэнню гэтай задачы. Я не гавару ўжо аб палітычным баку справы. Недавер'е, страх і падазронасць, згадзіцеся, згубна адбіваюцца на міжнародным клімаце. Ёсць і бок маральны. Працягваць выпрабаванні—значыць растрачваць сілы і сродкі для зла, тады як надзвычай вялікая і ўзрастае патрэбнасць у іх на добрыя, гуманныя справы.

**Пытанне:** Гавораць, што савецкая ядзерная зброя «больш простая і не мае патрэбы ў праверцы надзейнасці», а амерыканская — «больш складаная і таму яе трэба пастаянна выпрабоўваць на эфектыўнасць».

Запушчана ў ход і іншая версія, быццам Савецкі Саюз да аб'яўлення ў 1985 годзе мараторыя ўдасканаліў свой ядзерны арсенал, значна абагнаў у гэтым Амерыку і таму можа сабе дазволіць паўзу ў выпрабаваннях, а Злучаным Штатам прыходзіцца, маўляў, цяпер «даганяць», таму яны і праводзяць выбухі.

Дзе тут праўда?

**Адказ:** А праўды тут няма наогул. Усе гэтыя сцвярджэнні лжывыя ад пачатку і да канца.

Спецыялісты вельмі пераканаўча даказваюць, што для таго, каб быць упэўненым у надзейнасці ўжо наяўнай ядзернай зброі, зусім не патрэбны ядзерныя выбухі. Кантраляваць надзейнасць можна гэтак жа эфектыўна і да таго ж куды больш танна і бяспечна іншымі метадамі, без ядзерных выбухаў.

Аб тым, што можна быць упэўненым у ядзерных боепрыпасах, не праводзячы выбухаў і абмяжоўваючыся праверкай няядзерных кампанентаў бомбаў і боегаловак, гаворыць і працяглая практыка. З 1974 г. ЗША і СССР не праводзяць у адпаведнасці з наяўным дагаворам выпрабаванняў магутнасцю звыш 150 кілатон. Між тым, у ЗША боепрыпасы, якія перавышаюць па магутнасці гэты «парог», складаюць 70 працэнтаў ядзернага арсеналу, ды і ў нас не менш. Значыць, верым і мы, і яны ў надзейнасць зброі і без выбухаў! Навошта ж наводзіць цень на ясны дзень?

Калі амерыканцы сумняваюцца ва ўстойлівасці свайго ядзернага арсеналу, няхай пойдуць на выпрацоўку пагаднення аб спыненні выпрабаванняў, а нашы спецыялісты падзеляцца з імі «сакрэтамі», як правяраецца стан ядзерных зарадаў і без выпрабаванняў.

Не. Галоўная мэта выпрабаванняў ядзернай зброі, якія праводзяць Злучаныя Штаты,— стварэнне прынцыпова новых тыпаў узбраенняў. Што гэта значыць? А вось што: распрацоўваюцца новыя ядзерныя боегалоўкі і павышанай магутнасці, і высокай дакладнасці. У ходзе выпрабаванняў ствараецца ядзерная зброя касмічнага базіравання — рэнтгенаўскія лазеры з так званым ядзерным напампоўваннем. Вядуцца работы па падрыхтоўцы зусім новага віду зброі, здольнай паражаць цэлі і на Зямлі, і ў космасе. У гэтых умовах — крывадушнасць гаварыць, што забарона выпрабаванняў нічога не дасць для вырашэння праблемы ядзернага раззбраення.

Што датычыць другога доваду, то ён мог яшчэ гучаць колькі-небудзь праўдападобна ў першыя некалькі месяцаў нашага мараторыя. Але не тады, калі цішыня на савецкіх ядзерных палігонах пануе ўжо другі год. Калі распрацоўка новай і ўдасканаленне старой ядзернай зброі патрабуюць усё новых ядзерных выпрабаванняў — а гэта несумненна так, —то па логіцы рэчаў ЗША, якія правялі намнога больш выбухаў, чым СССР, плюс [illegible] а год нашага мараторыя, па[illegible]ы былі б далёка пайсці наперад. Даганяць, атрымліваецца, трэба не ім, а нам. Словам, абсурдная сама гэта пастаноўка пытання.

Вядома нам і такая [illegible]ка: ці нельга ў тым, што [illegible]чыць выпрабаванняў, на нейк[illegible] час задаволіцца кампрамісам паміж савецкай і амерыканскай пазіцыяй. Гэта значыць — не поўнай забаронай, а нейкай іх «рэгламентацыяй».

Вядома, прапануючы другому боку дагаворанасць, ніколі нельга цалкам адхіляць кампрамісы. Але ідэя «рэгламентацыі» замест спынення ўяўляецца мне ўсё ж няправільнай у прынцыпе.

Перш за ўсё, рэгламентацыя ў нас ужо ёсць: дагавор 1963 года і так званыя «парогавыя» пагадненні 1974 і 1976 гадоў. Але гонку ўзбраенняў яны не спынілі. Яна нават узмацнілася — вядома, не таму, што гэтыя дагаворы існуюць.

Тое ж самае можа адбыцца і з прапануемай «рэгламентацыяй» падземных ядзерных выпрабаванняў. Хутчэй за ўсё, яна прывяла б да таго, што гонка проста пойдзе ў іншым напрамку, а потым высветліцца, што — у яшчэ больш небяспечным.

Нейкага палавінчатага рашэння па праблеме ядзерных выпрабаванняў проста не можа быць. Сумленная пастаноўка пытання адна: або дагаворвацца аб тым, каб не выпрабоўваць ядзерныя зарады і пакончыць з гэтым раз і назаўсёды, або даць старт яшчэ больш небяспечным ваенным падрыхтаванням. Трэцяга не дадзена.

Калі б амерыканцам удалося ўцягнуць свет у гонку касмічных узбраенняў, якімі б тэрмінамі яны ні абазначаліся —«абароннымі» або іншымі, гэта напэўна прывяло б да крайне рызыкоўнай дэстабілізацыі ўсёй ваенна-стратэгічнай сітуацыі. Пагроза чалавецтву набыла б якасна новыя смяротныя параметры. Ніхто не мае права заплюшчваць на гэта вочы.

**Пытанне:** Зноў, як і наконт усіх іншых ініцыятыў Савецкага Саюза, акружэнне прэзідэнта Рэйгана і прадстаўнікі некаторых іншых натаўскіх урадаў спрабуюць адцягнуць увагу ад пастаўленай Вамі кардынальнай праблемы — працэсу ядзернага раззбраення — рознага роду спекуляцыямі наконт кантролю, праверкі.

Як Вы ацэньваеце падобны падыход?

**Адказ:** Іменна так, як сказалі Вы, — як спробу адцягнуць увагу. Хочуць прадоўжыць жыццё збанкрутаванаму доваду, быццам забарону на ядзерныя выпрабаванні немагчыма пракантраляваць. Збанкрутаваў ён, перш за ўсё, у сілу поспехаў навукі. Сёння нацыянальнымі сродкамі можна выявіць любы, нават самы малы ядзерны выбух. Каб дапамагчы вырашэнню праблемы, Савецкі Саюз, тым не менш, даў згоду на іншыя метады кантролю. «Дэлійская шасцёрка» прапанавала свае паслугі — мы згадзіліся. А ЗША адмаўчаліся. Вучоныя дагаварыліся аб устаноўцы сейсмографаў і іншага абсталявання паблізу ядзерных палігонаў СССР і ЗША — мы падтрымалі і гэту ініцыятыву, нягледзячы на тое, што амерыканскі ўрад аднёсся да яе з грэбаваннем.

Я не так даўно прымаў групу вядомых вучоных — спецыялістаў у гэтай галіне з СССР, ЗША, краін Заходняй Еўропы, Японіі, грунтоўна з імі гутарыў. І яшчэ раз пераканаўся, што ў іх ніякіх сумненняў наконт магчымасці самага надзейнага кантролю за забаронай ядзерных выпрабаванняў няма.

А пакуль жа справа выглядае так: Злучаныя Штаты ніяк не выказалі гатоўнасці пачаць раззбраенне і гавораць не аб кантролі за раззбраеннем, а аб кантролі за ўзбраеннямі.

Мне самому і нашым ваенным таварышам не раз прыходзілася ўжо гаварыць: мы ведаем, што робяць амерыканцы, што ў іх адбываецца на ядзерных і іншых палігонах. А іх спробы скрыць сёе-тое, у тым ліку і некаторыя свае выбухі (уключаючы і яшчэ адзін, зроблены тыдзень назад), лішні раз пераконваюць нас у тым, што на слова верыць нельга. І сапраўды: ніякіх падстаў давяраць амерыканскім генералам у нас няма, ды і з іх боку мы на давер'е не разлічваем. Таму мы за строгі, навукова абгрунтаваны кантроль і будзем на ім настойваць, уключаючы інспекцыю на месцах. Але, паўтараю, не за правядзеннем выбухаў, а за спыненнем выбухаў.

Амерыканскія прыборы ўжо ўстаноўлены паблізу савецкага ядзернага палігона ў Сяміпалацінскай вобласці. Мы лічым, што можна было б дагаварацца вучоных перавесці ў афіцыяльнае пагадненне і ўзаемна сачыць за тым, каб магчымае пагадненне аб спыненні ядзерных выбухаў не парушалася. Можна падумаць і аб тым, каб стварыць міжнародную, наднацыянальную сетку кантролю за спыненнем выпрабаванняў. Карыстаюся выпадкам, каб звярнуцца да прэзідэнта ЗША з гэтай прапановай. Праблема тут цалкам вырашальная. А тое, што ў Вашынгтоне яе спрабуюць паказаць як арэшак, які немагчыма разгрызці, тлумачыцца проста: ЗША не гатовы адмовіцца ад гонкі ўзбраенняў і таму блефуюць.

Ядзерныя выбухі патрэбны ім, паўтараю, не для стрымлівання (стрымліваць няма каго: ніхто на ЗША нападаць не збіраецца), а для стварэння зброі, прызначанай для вядзення ядзернай вайны.

**Пытанне:** І апошняе, таварыш Гарбачоў, калі дазволіце, далікатнае пытанне. Мяркуючы па шматлікіх заявах з акружэння прэзідэнта ЗША, ды і па заходняму друку, усю ўвагу сусветнай грамадскасці хочуць цяпер сканцэнтраваць на новай Вашай сустрэчы з панам Рэйганам, фактычна падмяніць размовамі аб ёй усе актуальныя праблемы спынення гонкі ўзбраенняў.

Што Вы можаце сказаць наконт гэтага?

**Адказ:** Мы за правядзенне савецка-амерыканскай сустрэчы на вышэйшым узроўні, такой сустрэчы, якая азнаменавалася б прыметным рухам наперад у вырашэнні хоць бы адной-дзвюх істотных праблем міжнароднай бяспекі.

Пасля Жэневы мы зрабілі нямала крокаў, каб зблізіць пазіцыі па шырокаму спектру праблем, якія датычаць пераадолення гонкі ўзбраенняў. Нам чужы падыход, які можна было сфармуляваць: «Усё або нічога». Але дзеля «нічога» сустрэчу праводзіць не варта. Можа, каго-небудзь гэта б і задаволіла — нас рашуча не задавальняе.

Пытанні, аб якіх ідзе размова, закранаюць усе краіны, усё сусветнае супольніцтва, хоць мера адказнасці Савецкага Саюза і Злучаных Штатаў, зразумела, асабліва вялікая. Вось таму, як [illegible]с ні правакуюць, мы не [illegible]заем ніці кантактаў з амеры[illegible]нскай адміністрацыяй, не ставім пад сумненне іх карыснасць, не грукаем дзвярамі (хоць некаторыя на Захадзе і асабліва ў акружэнні прэзідэнта ЗША гэтага вельмі хацелі б[illegible]е кантакты каштоўныя не [illegible] па сабе, а вынікамі.

Мы чакаем, што маючая адбыцца ў хуткім часе сустрэча Э. А. Шэварднадзе з дзяржсакратаром ЗША Дж. Шульцам дапаможа праясніць, дзе мы цяпер знаходзімся, ці мае савецка-амерыканскі дыялог шанцы рушыць далей.

Калі заведама зыходзіць з таго, што мараторый непрымальны, калі пытанне аб ракетах сярэдняй дальнасці ў Еўропе блакіруецца, калі стратэгічныя ўзбраенні павінны ўдасканальвацца і г. д., то аб чым тады дагаворвацца? У абстаноўцы ліхаманкавай гонкі ўзбраенняў, нагнятання напружанасці, злому існуючых дагавораў — сустрэча ў вярхах наўрад ці прынясе карысць. А вось выкарыстоўваць яе для падману людзей, заспакаення грамадскасці бачнасцю дабрабыту было б лягчэй лёгкага і пры гэтым працягваць небяспечную палітыку. Так, уласна, гэта ўжо спрабуюць зрабіць, паказваючы справу так, быццам падрыхтоўка да сустрэчы ідзе поўным ходам.

Нагнятаючы штучны аптымізм: усё для сустрэчы, маўляў, амаль гатова, — разлічваюць, магчыма, загадзя спіхнуць віну за вынікі сваёй дэструктыўнай палітыкі на Савецкі Саюз. Такія ж мэты, відаць, мае і другая версія: быццам СССР прыйшоў да вываду, што з адміністрацыяй Рэйгана кашы, як кажуць, не зварыш.

Аднак — мы надаём занадта вялікае значэнне фактару часу, каб так вось вырашыць: «замром», маўляў, на два з палавінай гады. Не. Чакаць— было б недаравальнай памылкай. Мы будзем і ў далейшым выкарыстоўваць любую магчымасць для прадуктыўнага дыялога, для руху да абмежавання і скарачэння ўзбраенняў, а таксама для ўрэгулявання рэгіянальных канфліктаў, развіцця міжнароднага супрацоўніцтва па ўсіх актуальных напрамках. У гэтым сэнсе сумленне ў нас чыстае перад савецкім народам, ды і перад іншымі народамі. І нас добра разумеюць, паслядоўна і цвёрда падтрымліваюць нашы чэхаславацкія сябры, краіны сацыялістычнай садружнасці.

Хацеў бы асабліва падкрэсліць: мы вельмі даражым і скрупулёзна ўлічваем думку сваіх саюзнікаў, поўныя рашучасці і далей паляпшаць механізм і метады кансультацый, сумеснай выпрацоўкі знешняй палітыкі сацыялізму. Мы высока цэнім палітычныя ініцыятывы сваіх саюзнікаў і сяброў, іх актыўнасць у барацьбе за новае палітычнае мысленне, дзейны і раўнапраўны ўдзел у агульных намаганнях па вырашэнню праблем міру, бяспекі, раззбраення.

Не лічу магчымым умаўчаць аб яшчэ адным баку справы, звязаным з перспектывамі сустрэчы ў вярхах. Многа ствараецца домыслаў вакол маёй канфідэнцыяльнай перапіскі з прэзідэнтам ЗША. Не хачу раскрываць яе зместу, але вось адносна домыслаў сказаць варта. Грашаць яны наўмысным аптымізмам, ёсць у іх нешта ад рэкламы.

У канцы ліпеня да нас паступіла чарговае пісьмо прэзідэнта ЗША як бы з адказам на нашы ініцыятывы. Ведаю, што на Захадзе гэта пісьмо падносяць як нешта новае ў пазіцыі Вашынгтона, ствараюць вакол яго выгадныя адміністрацыі «ўцечкі», робяць выгляд, быццам усё цяпер залежыць ад Масквы. Свой адказ мы, зразумела, прэзідэнту дадзім.

Я вывучаў пісьмо прэзідэнта ўздоўж і ўпоперак, фігуральна кажучы — і пад мікраскопам, і ў тэлескоп. Канкрэтней гаварыць не буду — дамовіліся ж аб канфідэнцыяльнасці. Аднак мне зразумелае жаданне людзей ведаць, што ж там — у гэтай закрытай перапісцы. Гэта ж датычыць іх усіх, усіх людзей Зямлі. Калі б яны маглі азнаёміцца з тэкстамі абодвух пісьмаў, параўнаць значнасць кожнага з іх для развязкі галоўных вузлоў на шляху раззбраення, яны ўбачылі б, наколькі сур'ёзна і адказна савецкае кіраўніцтва падыходзіць да праблем прадухілення вайны, як канкрэтна, па-дзелавому і з улікам інтарэсаў другога боку мы фармулюем свае прапановы.

Яны ўбачылі б таксама, што мы далёкія ад пазіцыі безнадзейнасці, верым у сілу розуму і пачуццё самазахавання чалавецтва.

Сваімі дзеяннямі і ініцыятывамі мы імкнёмся ўмацаваць надзею народаў на тое, што сітуацыю можна змяніць, што ёсць даступная альтэрнатыва канфрантацыі. Думаю, мы ўжо ўступілі ў другую фазу глабальнага антыядзернага працэсу, фазу не толькі надзей, але і рэалістычных планаў і вынікаючых з іх канкрэтных дзеянняў. Як камуніст, я веру ў сілу мас, якімі авалодвае новае мысленне, што ўказвае выхад з крызіснага становішча.

Час для прыняцця сумесных, адказных, няхай кампрамісных рашэнняў — самае каштоўнае, што ў нас пакуль яшчэ ёсць. Але ён хутка канчаецца. Век ядзернай зброі, відаць, — самы скарацечны з усіх, праз якія прайшла сусветная гісторыя. Таму так патрэбны цяпер канкрэтныя справы. Заклікам да іх я і хацеў бы закончыць.

Ад імя КПСС, усіх савецкіх людзей шлю брацкаму чэхаславацкаму народу самыя добрыя пажаданні.

